

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №4 (20)**
**САКАВІК 2015 ГОДА**

**У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ**

## БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЬ АБО ПАКАЗЧЫК СТАЎЛЕННЯ ДА ЛЮДЗЕЙ?

**Фотафакт: у Суражы Віцебскай вобласці дачныя ўчасткі залівае вадой з водаправодных труб, а могілкі заваленыя абрэзкамі ад спілаваных дрэў.**

Многія дачнікі чакаюць вясны з нецярпеннем, каб прыступіць да апрацоўкі участкаў. А вось віцяблянін Сяргей Фёдараў не ўяўляе, што яму рабіць на сваім агародзе, на якім ўвесну разліваецца возера. Ён мае дачу ў Суражы па вуліцы Задзвінска-Набярэжнай, 22.

- І справа не толькі ў адталай вадзе, - разводзіць рукамі Сяргей Львовіч. - Вось паглядзіце на гэтыя здымкі, якія я зрабіў восенню, калі не было паводкі. Паміж дамамі №№ 20 і 22 праходзяць вадаправодныя трубы, якія вядуць да калонак. Менавіта ў гэтым месцы з зямлі струменіцца вада, другі год запар. Нашы звароты ў участак "Суражскі" УП ЖКГ «Віцрайкамгас» нічым не скончыліся.

Яшчэ адзін негатыўны прыклад. Увосень на могілках у пасёлку абрэзалі дрэвы. З болем і трывогай назіраюць вяскоўцы за гэтым лесапавалам да гэтага часу, таму што ў выніку пашкоджаны некаторыя агароджы і заваленыя бярвёнамі падыходы да магіл. А вясной прыйдуць сваякі памерлых там наводзіць парадак. І што яны пабачаць ...

**Алена Красьнянская**
**«Віцьбічы»**

**НАРОДНЫЯ АБРАДЫ**

## У ВЁСЦЫ ЗАРОНАВА ГУКАЛІ ВЯСНУ

**Магчыма не так шпарка, як хацелася б, крочыць вясна, але не позніцца, бо здаўна абуджэнне прыроды ад зімовага сну звязвалі з Саракамі — днём Сарака Пакутнікаў, які адзначаецца 22 сакавіка.**

Лічылася, што ў гэты дзень "сорак саракоў птушак вясну нясуць". Але яе трэба было запрасіць, таму праводзілі абрад гукання вясны. З захаваннем усіх элементаў святочнай дзеі падышлі да яго ў Заронаве. Арганізаваў жа захапляючае відовішча мясцовы музей.

Па традыцыі ўдзельнікі свята і жыхары аграгарадка сабраліся на ўзвышшы на беразе цудоўнага возера. З печывам у выглядзе птушачак юныя краязнаўцы спявалі вяснянкі і клікалі: "Жавароначкі, прыляціце! Цёпла лецейка прынясіце!"

Далучыліся да абрадавага дзеяння са сваімі папяровымі крылатымі вырабамі выхаванцы Заронаўскага дзіцячага садка. Змілавалася Вясна, завітала на свята, а з сабою прынесла кош загадак. Кемлівыя дзеці не толькі іх разгадалі, а ўспомнілі мноства прыказак і прымавак пра вясну, зямлю, працу.

У даўніну ў гэты дзень на гары хлопцы ладзілі вогнішча, у якім спальвалі ўсе непатрэбныя рэчы, бо агонь сімвалізуе ачышчэнне душы. У Заронаве таксама карагодам каля вогнішча адзначылі абрадавы пераход да новага каляндарнага цыкла, новага этапу жыцця. І яшчэ доўга дзятва і дарослыя весяліліся, гулялі ў ручаёк, ласаваліся печывам.

**Ніна Сталярэнка**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

**САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС**

## ЗАРОБКІ ЎПАЛІ НА 35% У ПЕРАЛІКУ НА ДАЛЯР

**У доларавым эквіваленце заробкі ўпалі болей чым на траціну, віной чаму стала амаль 40% дэвальвацыя нацыянальнай валюты.**

У снежні 2014г. намінальная налічаная сярэдняя заработная плата склала 6806 тыс. рублёў або прыкладна 620 даляраў (па курсе 11 тыс. рублёў за даляр). У студзені 2015г. зарплата з улікам дэвальвацыі паменшылася да 400 даляраў (па курсе 15 тыс. рублёў).

Для даведкі: У студзені 2015г. у беларускай прамысловасці сярэдняя заработная плата склала 6 256,1 тыс., у будаўніцтве - 7 022,6 тыс., на транспарце і сувязі - 6 952,3 тыс., у сельскай і лясной гаспадарцы - 4 462,7 тыс., у адукацыі - 4 439,3 тыс., у тым ліку настаўнікаў - 5 354,3 тыс., прафесарска-выкладчыцкага складу - 6 929,7 тыс. рублёў.

Заработная плата работнікаў аховы здароўя ў студзені 2015г. была ў памеры 4 997,1 тыс. рублёў. Сярэдняя заработная плата ўрачоў склала 8 058,7 тыс., сярэдняга медыцынскага персаналу - 4 988,2 тыс. Рублёў.

Самая высокая сярэдняя зарплата налічана работнікам фінансавай сферы – 10 967 тыс. рублёў.

**К.Адамаў**

**ТЭЛЕБАЧАННЕ**

## ТЭЛЕКАНАЛ «ВІЦЕБСК» ПАКАЗВАЕ «СВАЁ. РОДНАЕ»

**У моладзевым праекце ZaDelo зьявілася адмысловая праграма, прысвечаная беларускай культуры. Яна называецца «Сваё. Роднае»**

«Беларуская мова, культура, вопратка, кухня, традыцыі і проста любоў да роднага краю. Нарэшце — усё пра нашу гісторыю і сучаснасць. І жахі, і цуды, і трэш, і лірыка — у адной праграме. Сьцісла, весела і па-маладому пра наш нацыянальны каларыт, традыцыі і родныя мясьціны. Усё, што варта ведаць кожнаму з нас пра сваё роднае», — так анансуецца новы выпуск праграмы.

У апошняй праграме вядучая Юлія Дубро знаёміць тэлегледачоў з тым, як школьнікі з вёскі Лётцы Віцебскага раёну гукалі вясну. У некалькіх папярэдніх у тэлеэфір запрашалі краязнаўцаў, настаўнікаў, аматараў беларускай літаратуры і маладых літаратараў, якія спрабуюць пісаць на роднай мове.

Праграма «Сваё. Роднае» — бадай што першы нацыянальна арыентаваны праект на віцебскім тэлебачаньні, адрасаваны моладзі. Першы выпуск тэлегледачы маглі ўбачыць 14 лютага, і з тае пары перадача выходзіць штотыдзень.

**А.Смаленскі**

**Чытайце сайт**
**Віцебскага раёна:**
**http://vicebskreg.by**

**ПАЛІТВЯЗНІ**

## КОГДА НЕ ДОХОДЯТ ПИСЬМА

**Политзаключенному Игорю Олиневичу не передают письма и газеты в колонии «Витьба» Витебского района**

Валентина Олиневич встретилась с сыном в колонии. «В субботу прошло краткосрочное свидание, - сообщила мать политзаключенного. - Все, как обычно. Выехали из Минска утром, не зная, дадут нам с мужем увидеть его или нет. На этот раз свидание состоялось, но права на передачу, которая полагается один раз в четыре месяца, он лишен».

«Наличие стекла и разговор через телефонную трубку не способствовали доверительности разговора. Но видеть и слышать близкого человека, даже не имея возможности обнять его - это всегда большая радость. Много вопросов о том, что творится в мире. Во всем чувствуется самый настоящий информационный голод. Газеты «Новы Час» и «Свободные Новости» ему не отдают, хотя редакция постоянно высылала и высылает ему каждый номер. Большая часть писем по неизвестным причинам также не доходит до Игоря. Особенно это касается его русских друзей. Те письма, в которых я пишу о российских и украинских событиях, также не доходят. И что уж совсем непонятно для меня - не пропустили комментарии к Уголовному Кодексу. Хотя в Новополоцкой колонии всю законотворческую литературу пропускали беспрепятственно», - рассказала Валентина Олиневич.

По словам матери политзаключенного, сейчас Игоря Олиневича перевели в новый, 7-й отряд: «Времени после работы остается очень мало, но старается побольше читать, изучать экономику, - говорит она. - Большое впечатление на не-го произвела судьба русского экономиста Николая Кондратьева, создателя теории «длинных волн», погибшего в 1937 году. Пытается экстраполировать эту теорию на нашу действительность. Говорит, что по его расчетам мы только в начале экономического кризиса, а не на его дне. К сожалению, учебник по экономике, который был на английском языке, ему тоже не отдали. На мои вопросы о здоро-вье, ответил, что все в порядке, хотя черные круги под глазами свидетельствуют об ином. Беспокоится о других политических и просто заключенных. Расстроила весть о том, что Николаю Дедку назначен суд. Не разделяет категорически точку зрения «Платформы» о том, что в тюремной системе Беларуси наметились позитивные тенденции. Не видит никаких оснований для таких утверждений. В этих условиях вполне разделяет точку зрения Алеся Беляцкого.

Когда мы приехали, на горке, напротив колонии, стояла чья-то мама, которая с самого утра ждала своего сына. Его должны были выпустить на свободу в этот день. Я надеюсь, что они наконец встретились».

Активист анархистского движения Игорь Олиневич осужден на 8 лет лишения свободы, якобы «за хулиганские действия в отношении официальным зданий». Своей вины политзаключенный не признал. Ранее он отбывал наказание в колонии в Новополоцке, которая считалась самой плохой по экологии. В начале прошлого года было постановлено о ее расформировании. В середине июля 2014г. стало известно, что Игорь Олиневич этапирован в колонию «Витьба». А уже спустя короткое время на политзаключенного началось сильное давление и он провел целый месяц в ШИЗО.

Игорь Олиневич признан политзаключенным международным и белорусским правозащитным сообществом.

**Хартия '97**

БЕЛАРУСКАЯ ТРАДЫЦЫЯ

# ВЫСТАВА ТКАЦТВА СВЯТЛАНЫ БАРАНКОЎСКАЙ

**Выстава аўтарскага ручнога ткацтва Святланы Баранкоўскай “RadNº0” (“Радно”) адкрылася ў Віцебскім мастацкім музеі 5 сакавіка. Гэтая экспазіцыя дае магчымасць сузірання глыбіннага зместу беларускай традыцыі.**

Святлана Баранкоўская ўяўляе сабой той тып жанчыны, якую мы можам назваць універсальным чалавекам з гарманічнай унутранай прыродай. Гэта і выдатная мастачка, і цудоўная маці, і грамадскі дзеяч. Ва ўсіх сваіх іпастасях яна бездакорна праяўляе сябе. Гэта падкрэслівалі многія выступаючыя на адкрыцці выставы. Зараз Святлана Баранкоўская з’яўляецца старшынём Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў. Вельмі актыўная праца ў якасці старшыні не перашкаджае ёй тварыць, больш за тое, ствараецца ўражанне, што творчасць мастачкі набывае яшчэ большую моц і інтэнсіўнасць.

Найбольш адметная рыса яе творчасці – гэта сапраўдная беларускасць, укараненне ў нацыянальнай стыхіі роднага краю. На кожнай выставе, дзе мастачка прымае ўдзел, можна пераканацца ў метафізічным характары яе работ, якія выяўляюць якасны змест беларускага космасу і глыбіні нацыянальнага звышсвядомага. Зразумела, што персанальная выстава Святланы Баранкоўскай стала святам беларускай культуры з раскрыццём яе духоўнага багацця. Народнае ў творчасці мастачкі неразрыўна звязана з арыстакратычным, бо гэтая творчасць ахоплівае ўсё адметнае: ад глыбінь постфігуратыўнага паганскага нацыянальнага хронаса, праз хрысціянскую сакральнасць, да духоўнай місіі сучаснай беларускай інтэлігенцыі.

На цырымоніі адкрыцця выставы Святлану Баранкоўскую віншавалі яе сябры і калегі. Віктар Шылко казаў пра святочны дух выставы і асаблівую, інтэгратыўную якасць творчасці мастачкі, для якой жыццё і стварэнне з’яўляюцца непадзельнымі: “Ведаеце, чым адрозніваюцца мастакі ад іншых людзей? Здавалася б, у самыя непадыходныя часы яны могуць зрабіць сабе свята. Нягледзячы на тое, што гэтая жанчына, прыгажуня, з’яўляецца творцай, яна яшчэ і займацца грамадскай дзейнасцю. Быць старшынём Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў – гэта велізарная нагрузка. Гэта, апроч іншага, маральная і фізічная нагрузка … Але яна прыцягвае творчасць у сваё жыццё”.

Выстава Святланы Баранкоўскай, якая займае дзве залы Віцебскага мастацкага музея, складаецца з некалькіх частак. Цэнтральная частка, як ахарактарызавала сама мастачка, вясёлкавая, святочная, веснавая. У другой зале, умоўна кажучы, “дзіцячы альбом”. Таксама ёсць значны гістарычны план і партрэтная частка. Настолькі жа шматсастаўны сэнс мае і назва выставы. Пра паходжанне яе Святлана Баранкоўская таксама распавяла наведвальнікам: “Мне вельмі хацелася правесці веснавую, святочную, каляровую выставу, якая нясе ў сваёй назве шмат сэнсаў. Таму што радно – гэта тое, чым я прафесійна займаюся… З гэтага радна я раблю нейкія карцінкі. Радно – гэта і тое роднае, што крочыць ў будучыню, і мінулае, што дае жыць Беларусі далей. Радно – гэта таксама мая радня… Радно яшчэ і “рад нумар зэро”, схаваны рад, той, у якім я яшчэ не ведаю, што зраблю”.

Выстава “RadNº0” будзе экспанавацца больш за месяц, і мы запрашаем наведвальнікаў акунуцца ў найглыбейшы выраз свету беларускай традыцыі.

*(скарочана)*

**Георгий Корженевский**

**Далучайцеся да нас у сацыяльных сетках: Одноклассники (Новости Витебского района) — ok.ru/group/57239781113901; ВКонтакте — vk.com/vicebskreg**

ФЕСТЫВАЛЬ

# "СЛАВЯНКА" ПРОЙДЕТ С 9 ПО 13 ИЮЛЯ

**XXIV Международный фестиваль искусств "Славянский базар в Витебске" пройдет с 9 по 13 июля, дополнительные мероприятия - 7, 8 и 14, 15 июля. Его география охватит пять континентов, отмечалось на заседании горисполкома, посвященном подготовке к этому культурному событию.**

Основное фестивальное событие - международный конкурс исполнителей эстрадной песни. Достойное место в мероприятиях форума займет тема молодости в контексте Года молодежи. Празднование 70-летия Победы найдет свое отражение в проектах Дня Союзного государства.

Сейчас завершается заключение договоров с артистами, формируется концертная программа. Впервыена"Славянскомбазаре" пройдут фэст уличных театров, музыкантов, художников и поэтов "На семи ветрах", интерактивные перфомансы, уличные представления и спектакли. Будет насыщена разноплановыми проектами и выставочная программа. В Летнем амфитеатре планируется провести 17 концертов, в том числе два ночных.

На заседании горисполкома утверждены оргкомитет, планы мероприятий по подготовке и проведению фестиваля, по развитию инфраструктуры и благоустройству объектов города.

Скоро в продажу поступят билеты на концертные программы фестиваля искусств. Их можно будет купить в кассах города и онлайн.

ЗДАРЭННЕ

# ПАЖАРЫ НАСТУПАЮЦЬ

**У Віцебскай вобласці пачасціліся выпадкі ўзнікнення пажараў, на жаль, не абышлося без чалавечых трагедый.**

Але Віцебскі раён пакуль здарэнні з чалавечымі ахвярамі абыходзяць бокам. Апошняе ўзгаранне адбылося 9 сакавіка 2015 года. У дзве гадзіны ночы паступіла паведамленне аб пажары ў дачным доме ў садовым таварыстве «Паляна» Віцебскага раёна. У выніку пажару ў дачным доме знішчаны дах, столь, маёмасць, пашкоджаны сцены. Асоба ўладальніка усталёўваецца. Прычына пажару таксама высвятляецца.

**К.Адамаў**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# «МАРМУРОВАЕ» МЯСА

**Шапечынскі жывёлагадоўчы комплекс ААТ «Ліпаўцы» Віцебскага раёна, які змяшчае ў сярэднім 7 тысяч галоў маладняку буйной рагатай жывёлы, на Прыдзвінні лічыцца адным з асноўных пастаўшчыкоў ялавічыны.**

Вядомы ён і вырошчваннем самай папулярнай у свеце пароды жывёл - герефорд, з якіх вырабляюць «мармуровае» мяса. Цікава будзе ведаць, што гэты далікатэсны прадукт атрымаў назву з-за раўнамерна размеркаваных тлушчавых праслоек ўцягліцавых тканінах маладых бычкоў, якія на зрэзе нагадваюць прыродны малюнак высакароднага каменя. У працэсе падрыхтоўкі яны растаюць, напаўняючы мяса сокам, за кошт чаго яно набывае непаўторную мяккасць.

Задумка заняцца «мармуровым» мясам належыць былому кіраўніку калгаса-камбіната «Зорка», а цяпер генеральнаму дырэктару РУП «Віцебскае племпрадпрыемства», кандыдату сельскагаспадарчых навук Фізулі Гасанаву. У пачатку 2000-ых гадоў разам з зацікаўленымі спецыялістамі племпрадпрыемства ён узяўся ўвасобіць яе ў рэальнасць. Генетычная парода была выведзена шляхам прымянення дэтэрмінантнага скрыжавання цёлак чорна-пярэстай пароды спермай герефорд. На гэтым у гаспадарцы не спыніліся і вырашылі закупіць чыстапародных цёлак і бычкоў. Выбар прыпаў на племхозы Ніжняга Ноўгарада, дзе грунтоўна займаліся «мармуровай» ялавічынай. Неўзабаве завезлі адтуль жывёл і паставілі іх на інтэнсіўнае вырошчванне.

Зацікавіліся спецыялісты і вопытам гадоўлі герефорд ў Венгрыі. З'ездзілі, паглядзелі на цяжкавагавікоў-быкоў, вывучылі сэлекцыйную справу. У выніку маладняк закупілі, і тэхналагічная лінія папоўнілася яшчэ адным герефордавым нашчадкам.

Не проста, але з гадамі адладжваць ўзнаўленне, якое дазваляе ўтрымліваць аптымальны статак.

- У гаспадарцы зараз налічваецца каля 700 адзінак герефорд карычнева-белай афарбоўкі, у тым ліку крыху больш за 300 кароў мясных парод, - распавядае начальнік комплексу Анжэла Аляксандрава.

Абслугоўваюць пагалоўе 23 аператара.

Адкорм жывёл мяркуе асаблівую тэхналогію іх зместу. У адрозненне ад чорна-пярэстых субратаў яны схільныя да вольнага жыцця і праводзяць больш за паўгода кругласутачна на травах, разам пасуцца з цялятамі послямалочнага перыяду. Як прыкмячаюць пастухі, у электрозагонах статак з'ядае ўвесь травастой, а на няўдобіцах - нават галінкі кустоў і дрэў. Адзначаецца флегматычнасць і маларухомасць быкоў. Нервова рэагуюць яны на староннiх назіральнікаў.

Гуляе герефорд у «Ліпаўцах» да сярэдзіне лістапада, амаль да першага снегу, потым пераведзены на стойлавае ўтрыманне. Ня зімуюць пад дахам толькі цельныя каровы мясных парод. Для іх зблізку в. Шапечына абсталяваны абгароджаны выгульных двор, дзе ўсталяваныя навесы, кармушкі, карыта для вадапою. У рацыёне пераважае камбінаваны сянажна-сіласны-саламяны корм, з вітаміннымі дабаўкамі.

- У сярэднім пад адкрытым небам трымаем сто кароў, якія дадуць прыплод летам, - адзначае Анжэла Анатольеўна. -Абслугоўваюць статак трыдзя глядчыкі. Жывёлы адаптаваныя да зімовых умоў, выдатна адчуваюць сябе на марозе.

У гаспадарцы прызнаюць, што складана балансаваць мясцовым традыцыйным наборам кармоў, асабліва ў стойлавы перыяд. Прадуктыўней травяны адкорм, калі жывёлы набіраюць сілу і знаходзяцца на пашах да забою. Да прыкладу, сярэднясутачнае прыбаўленне быка складае летам па 1200-1300 грамаў, а кароў гэтай пароды - па 800-900. Пры гэтым скарачаюцца тэрміны адкорму да 14 месяцаў, павялічваецца таварная вага пагалоўя. За 2014г. ў сярэднім кожны прададзены бык заважыў на мясакамбінаце больш за паўтонны.

Казаць аб выключнасці «мармуровага» мяса, выробленага на комплексе, не прыходзіцца. Улічваючы дарагоўлю сістэмы і магчымасці дыферэнцыраванага кармлення, тэхналогія атрымання яго спрошчаная. Гаворка хутчэй зайсё ідзе аб генетычнай схільнасці да «мармуровасці», чым патэнцыяле герефордаў у «Ліпаўцах».

На комплексе за год выраблена 145 тон «мармуровага» мяса. Прывабныя фінансавыя стымулы. Віцебскі мясакамбінат закупляе яго па цане на 35 працэнтаў вышэй звычайнай ялавічыны. Нядрэнны прыбытак здабываецца ад продажу сельгаспрадпрыемствам вобласці і за яе межамі племяннога маладняку герефордаў.

Гатовы «мармуровы» прадукт у мінулым можна было купіць у адкрытых гаспадаркай гандлёвых кропках забойнага цэха «Бабінічы», цэнтра «Эвіком». Зараз у продажы яго не знайсці. Уся прадукцыя адпраўляецца на Віцебскі мясакамбінат, адкуль дэлікатэсныя вырабы экспартуюцца ў асноўным у расійскія рэгіёны.

Дарэчы, «Мармуровае» мяса змяшчае лёгказасваяльныя жалеза, рэчывы, якія перашкаджаюць з’яўленню халестэрыну. Яно спрыяе выдаленню з арганізма рэчываў, якія правакуюць ракавыя захворванні. Ва ўсякім выпадку, так сцвярджаюць сучасныя медыцынскія даследаванні.

**Мікалай Кахно**
**"Жыццё Прыдзвіння”**

# АБ’ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты “Дзвінскі Узгорак“ паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце. Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты “Дзвінскі Узгорак“.***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.***





АДЗІНАЯ ВАЛЮТА

# МУХІ АСОБНА — 2

**Пуцін не кідае надзеі на эканамічную экспансію постсавецкай прасторы. Створаны нядаўна ЕАЭС надаў імпэту расійскаму прэзідэнту па пашырэнні ўплыву на сябраў ЕАЭС, Мытнага саюза і яшчэ шматлікіх агульных арганізацый. Але новага ён не прыдумаў.**

Пуцін вярнуўся да старой ідэі агульнай валюты. Яшчэ пры абмеркаванні стварэння самога ЕАЭС у мінулым годзе эксперты і палітыкі ставілі пад сумнеў з'яўленне такой грашовай адзінкі. Казалася пра тое, што яна можа з'явіцца не раней за 2025 год.

Аднак расійскі кіраўнік спяшаецца, і на тыдні ён даручыў свайму Цэнтрабанку і ўраду прапрацаваць мэтазгоднасць стварэння валютнага саюза ў рамках ЕАЭС. «Банку Расіі сумесна з урадам РФ ва ўзаемадзеянні з цэнтральнымі (нацыянальнымі) банкамі дзяржаў-сябраў Еўразійскага эканамічнага саюза вызначыць далейшыя напрамкі інтэграцыі ў валютнай і фінансавай сферах у рамках ЕАЭС з прапрацоўкай мэтазгоднасці і магчымасці стварэння ў перспектыве валютнага саюза», — гаворыцца ў даручэнні Пуціна.

Адрапартаваць пра выкананне даручэння кіраўнік урада Расіі Дзмітрый Мядзведзеў і кіраўнік ЦБ РФ Эльвіра Набіуліна павінны да 1 верасня 2015 года.

Такая паспешлівасць расійскага прэзідэнта відавочна збянтэжыла ягоных калегаў у Казахстане і Беларусі. Намер утварыць валютны саюз у рамках ЕАЭС прысутнічаў у праекце дэкларацыі аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі з паметкай «прапанова расійскага боку, казахстанскі бок супраць». У канчатковым тэксце дэкларацыі, падпісаным прэзідэнтамі трох краін 18 лістапада 2011 года, паказваецца толькі «паглыбленне супрацоўніцтва ў валютнай сферы».

Падчас прэс-канферэнцыі пасля падпісання дэкларацыі Назарбаеў растлумачыў, што гаворка ідзе аб пашырэнні выкарыстання нацыянальных валют ва ўзаемным гандлі трох краін з магчымым у перспектыве «выхадам на нейкую адзінку ў сэнсе валюты», пры гэтым пазначыўшы, што ні адна валюта краін-удзельніц ЕАЭС не падыходзіць на гэтую ролю.

Што да пазіцыі па гэтым пытанні Аляксандра Рыгоравіча, то 29 студзеня падчас вялікай прэс-канферэнцыі ён казаў, што пытанне адзінай валюты ў межах ЕАЭС «у парадку дня не стаіць». Наш кіраўнік растлумачыў, што для разгляду «адзінавалютнага» пытання трэба спачатку вырашыць увесь комплекс эканамічных пытанняў, у тым ліку і тых, якія ў межах стварэння ЕАЭС былі адкладзеныя да 2025 года. Вось калі з імі разбярэмся — можна і пра алтын падумаць.

«Але не думаю, што гэта будзе заўтра і пры маім прэзідэнцкім жыцці», — дадаў Лукашэнка. Улічваючы, якім чынам працягваецца прэзідэнцкае жыццё Аляксандра Рыгоравіча, то гэтая фраза фактычна азначае — ніколі.

Па меркаванні эканамістаў, пытанне пра адзіную валюту ў межах ЕАЭС, які працуе ўсяго два з паловай месяцы, сапраўды недарэчнае. Нават у варунках значна больш абкатанага Мытнага саюза адзіная валюта ёсць праблемай.

Эканаміст Сяргей Чалы зазначае: пакуль не выкананы ніводзін з шэрагу крытэраў, якіх павінна дасягнуць інтэграцыйнае аб'яднанне, каб у ім можна было ўводзіць агульную валюту. Найперш неабходна, каб паміж краінамі, якія ўтвараюць валютны саюз, былі вялікія аб'ёмы гандлю. Зараз жа нават у межах Мытнага саюза доля ўнутранага гандлю паміж «саюзнікамі» не тое што не расце, а нават скарачаецца. З «трэцімі краінамі» мы гандлюем больш, чым з «саюзнікамі». Таксама добра было б, каб у краін, якія ствараюць валютны саюз, былі сінхранізаваныя бізнэс-цыклы, то бок спады і ўздымы эканомікі. Гэтага амаль немагчыма дамагчыся, калі Казахстан і Расія — сыравінныя, а эканоміка Беларусі — цалкам перапрацоўчая. І апошні пункт самы важны: адзіны Цэнтрабанк і адзіная грашова-крэдытная палітыка.

Нагадаем, што яшчэ ў 2002 годзе ішлі размовы пра адзіную валюту Беларусі і Расіі. Расія настойвала, каб Цэнтрабанк быў адзін, і ён быў бы ў Маскве. З гэтым катэгарычна не пагаджаўся Аляксандр Рыгоравіч. Па ягоным меркаванні, эмісійных цэнтраў павінна было быць два — у Маскве і Мінску. То бок, каб Мінск таксама мог бы друкаваць грошы Саюзнай дзяржавы. На гэта Масква пагадзіцца не магла катэгарычна — бескантрольны друк грошай у Мінску мог абрынуць усю расійскую эканоміку.

Менавіта ў гэтым заграз праект Канстытуцыйнага акту Саюзнай дзяржавы. Менавіта з-за гэтага тады раз'юшыўся Уладзімір Уладзіміравіч. Менавіта тады ён параіў Аляксандру Рыгоравічу падумаць, чаго ён хоча: інтэграцыі ў Расію, альбо нечага іншага? Ён нагадаў, што эканоміка Беларусі — гэта 3% ад эканомікі Расіі, і зазначыў, што нельга спрабаваць аднавіць СССР за кошт эканамічных інтарэсаў Расіі. І тады ж прамовіў вядомую сваю крылатую фразу: «Мухі асобна — катлеты асобна».

Зараз Пуцін, не параіўшыся з калегамі, пачаў новую фазу ўводу «адзінай валюты». І зараз жа Лукашэнка з Назарбаевым могуць прыгадаць яму ягоныя ж словы пра мух і катлет. Маўляў, пакуль не будуць канчаткова знятыя абмежаванні ў гандлі, пакуль нафта ў Расіі і Беларусі не будзе каштаваць аднолькава — выбачайце, якая можа быць адзіная валюта? Мухі асобна — катлеты асобна.

**Сяргей Пульша**
**«Новы час»**




БЕЛАРУСЬ — ЗША

# КОШТ АЎТАРЫТАРНАЙ СТАБІЛЬНАСЦІ

**Дзяржаўны дэпартамент ЗША адмяніў санкцыі ў дачыненні да “Беларуснафты”, якія дзейнічалі ад 29 сакавіка 2011 года. Чаму гэта адбылося? Ці пойдзе на адмену санкцый ЕС? Пра гэта разважае палітолаг Валерый Карбалевіч.**

Рашэнне пра адмену санкцый да "Беларуснафты" за подпісам памочніка дзяржсакратара ЗША ў пытаннях эканомікі і бізнэсу Курта Тонга апублікаванае ў Федэральным рэгістры.

Як адзначаецца ў дакуменце, дзяржаўны сакратар ЗША прыняў рашэнне зняць санкцыі, накладзеныя ў адпаведнасці з Актам аб санкцыях у дачыненні да Ірана ад 1996 года, з рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Беларуснафта” ў звязку з тым, што кампанія больш не займаецца дзейнасцю, якая падпадае пад санкцыйныя абмежаванні, а таксама атрыманы гарантыі, што яна не будзе займацца падобнай дзейнасцю ў будучыні. Такім чынам, адзначаецца ў паведамленні, некаторыя санкцыі, уведзеныя датычна “Беларуснафты” 29 сакавіка 2011 года, больш не дзейнічаюць.

Што ў больш шырокім сэнсе адзначае гэты крок з боку ЗША?

На думку палітолага Валерыя Карбалевіча, пэўным чынам на такое рашэнне паўплывала і атмасфера нармалізацыі адносінаў паміж Захадам і Беларуссю.

— Па-першае, гэтая атмасфера, якую зафіксаваў пры канцы лютага высокапастаўлены прадстаўнік Дзяржэпартамента ЗША Эрык Рубен, які ўпершыню сустрэўся з Лукашэнкам. Рубен заявіў, што цяпер адносіны ЗША з Беларуссю будуць развівацца паралельна з патрабаваннямі ЗША датычна правоў чалавека. Калі раней адно з другім жорстка ўвязвалася, ставілася ўмова, што калі ўмовы з правамі чалавека не палепшацца, тады не будзе паляпшэння стасункаў у іншых глінах, то цяпер такой увязкі няма.

Другі чыннік — гэта тлумачэнне Дзярждэпа, што цяпер няма супрацоўніцтва беларускіх кампаніяў з іранскімі — тымі, адносна якіх была ўведзена забарона. Гэта лагічна, таму што ўзровень дачыненняў Беларусі з Іранам зменшыўся пасля сыходу са сваёй пасады прэзідэнта Махмуда Ахмадзінежада. І, нарэшце, трэцяя прычына — гэта размарожванне адносінаў паміж ЗША і Іранам, што выклікала змякчэнне ці адмову некаторых санкцыяў з боку Злучаных Штатаў адносна Тэгерана.

***— Але ж санкцыі супраць афіцыйнага Мінска ўводзіў і Еўрасаюз. Як быць з імі? Ці не стане прыклад ЗША штуршком і для ЕС, каб пачаць адмену санкцыяў у дачыненні да Беларусі?***

— Зараз цяжка даваць прагнозы. Там цяпер ідзе дыскусія, і, як мне падаецца, прадстаўнік міністэрства замежных спраў Латвіі заявіў, што гэтыя санкцыі будуць адмененыя ў першым паўгоддзі. Дыскусія ідзе, і гэта таксама вельмі важны паказнік таго, што нешта мяняецца.

***— Чым жа абумоўлена змена стаўлення ЗША і Еўропы да афіцыйнага Мінска? Хіба становішча тут істотна палепшала?***

— Унутры Беларусі сітуацыя ніяк не змянілася. Хутчэй наадварот — шрубы зацiскаюцца. Але ж змянілася геапалітычная сітуацыя ў рэгіёне. Украінскі крызіс паўплываў на тое, што геапалітыка выйшла на першы план, а праблема каштоўнасцяў — правоў чалавека і дэмакратыі — адышла ў бок. На гэтым тле стаўленне да Беларусі мяняецца, больш цэніцца беларуская стабільнасць, высвятляецца, што дэмакратызацыя часта вядзе да дэстабілізацыі. Гэта назіраецца і на прыкладзе Украіны, і тых краінаў, якія перажылі “арабскую вясну”.

Гэта трывожыць Захад, таму стабільнасць, нават аўтарытарная, стала цаніцца больш, чым раней. Да таго ж, параўнальна з Пуціным Лукашэнка ўжо не самы горшы дыктатар. І стаўленне Беларусі да ўкраінскага крызісу, спроба захаваць нейтралітэт у гэтым канфлікце таксама ацэньваецца Захадам станоўча. Вось усе гэтыя чыннікі і вядуць да таго, што адбываецца працэс, як сказала Майра Мора (пасол ЕС у Беларусі. — заўвага Г. К.), да нармалізацыі. Я б назваў гэты працэс размарожваннем адносінаў.

Нагадаем, санкцыі ў адносінах да “Беларуснафты” былі накладзены Дзярждэпартаментам ЗША ў сакавіку 2011 года з прычыны кантракта беларускага прадпрыемства з іранскай кампаніяй NaftIran Intertrade. У тым годзе ВА “Беларуснафта” заключыла кантракт з NaftIran Intertrade Company на 500 мільёнаў долараў ЗША для распрацоўкі нафтавага радовішча Джойфер. Закон ад 1996 года прадугледжвае накладанне санкцыяў на кампаніі, якія інвестуюць у Ірак больш за 20 мільёнаў долараў.

**Генадзь Кеснер**
**«Новы час»**

ПЛАНЫ ЎЛАДАЎ

# ОПЯТЬ ШОК БЕЗ ТЕРАПИИ

**Правительство приняло программу деятельности на 2015 год. Эксперты не находят в ней конкретики и называют планы «шоком без терапии».**

**Новые планы правительства**

Программа деятельности правительства утверждена постановлением Советам министров № 100 от 18 февраля 2015 года. Документ состоит из семи глав и охватывает все направления работы правительства: от макроэкономической политики до охраны окружающей среды.

Главной целью деятельности правительства на 2015 год определено «обеспечение макроэкономической и социальной стабильности в условиях нарастания внешних вызовов и угроз, качественное завершение текущей пятилетки и создание условий для динамичного экономического развития Беларуси в 2016-2020 годах и долгосрочной перспективе».

В числе важнейших задач — проведение эффективной макроэкономической и денежно-кредитной политики, действенная антиинфляционная политика, развитие конкуренции, малого и среднего предпринимательства, наращивание и диверсификация экспорта и прочее.

В программе указаны сценарии развития экономики страны на текущий год в зависимости от цены на нефть и динамики курса российского рубля. В качестве базового принят сценарий, который предполагает среднегодовую цену нефти на мировых рынках в 50 долларов за баррель, среднегодовой курс российского рубля — 61,5 рубля за доллар.

Как отмечает пресс-служба Совета министров, мероприятия программы носят характер прямого действия и не требуют разработки дополнительных планов по их реализации на уровне правительства.

**Пожарная программа без конкретики**

Эксперты критикуют принятую правительством программу за отсутствие конкретики.

«Она практически не содержит никаких цифровых отсылок, количественных и качественных показателей, по выполнению которых можно было бы судить об эффективности правительства в 2015 году», — говорит руководитель научного исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук.

По его мнению, программа, в которой нет даже количественного ориентира по инфляции на 2015 год, является «очень слабой», а возможное достижение к 2020 году темпов роста цен ниже 10% в год указывает на «хроническую слабость документа».

Экономист удивлен тем фактом, что в программу включены отдельные предприятия, для которых в сложные для белорусской экономики времена предусмотрена государственная поддержка. Речь, к примеру, идет об ОАО «Лакокраска» и ОАО «Завод горного воска».

«За 20 лет они не стали устойчивыми и продолжают тянуть деньги из бюджета, а власти ничего другого не придумали, как предоставлять им льготы. Это является форменным безобразием», — считает Ярослав Романчук.

Действия по развитию малого и среднего бизнеса, прописанные в документе, он считает декларативными.

«Ничего нет ни про аренду, ни про налоговую нагрузку, ни про права собственности и так далее. Никакой конкретики, но от слов халва слаще во рту не становится», — отмечает руководитель научного исследовательского центра Мизеса.

В целом он считает, что принятая программа предназначена, скорее, для пожарного, ситуативного реагирования, а не для серьезной работы по восстановлению стабильности белорусской экономики.

«Документ — формальный, поверхностный, неконкретный. У меня такое ощущение, что план делали на коленке», — говорит экономист.

**Шок без терапии**

Научный сотрудник Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) Дмитрий Крук характеризует принятую программу как готовность правительства пойти на ограничение роста для недопущения новых финансовых потрясений.

При этом, по его словам, ограничительные меры не предполагают последующих или одновременных институциональных изменений.

«Они, скорее, постулируются как временные, вынужденные меры. Впоследствии подразумевается возможный возврат к ним. В 2011 году экс-глава Национального банка Станислав Богданкевич охарактеризовал обнародованный правительством антикризисный план как шок без терапии. В какой-то мере эта аналогия применима и здесь», — считает экономист.

Дмитрий Крук видит смысл в шоковых, ограничительных действиях в случае, когда сегодняшние показатели приносятся в жертву будущему росту, но такового на основе принятой программы не просматривается.

«Вполне вероятно, что будет более долгосрочная стратегия, где более подробно будут обсуждаться институциональные реформы, но из этого документа я таковых не вижу», — отмечает эксперт.

**Александр Ярошевич**

ЭКАНАМІЧНЫ РОСТ

# ЧАТЫРЫ ПРЫНЦЫПЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**4 сакавіка ў офісе Руху "За Свабоду" адбылося абмеркаванне магчымых агульных падыходаў да прыватызацыі апазіцыйных сіл у межах супрацоўніцтва "Паглыблены дыялог".**

Дыскусіі папярэднічаў выступ вядомага эканаміста Сяргей Чалага. Ён адзначыў, што сёння мы хутчэй назіраем працэс рэпрыватызацыі, калі дзяржава вяртае сабе ў рукі часткова прыватызаваныя раней прадпрыемствы.

На думку эксперта, цяперашні крызіс вымагае пэўных захадаў – у тым ліку датычна буйных дзяржаўных прадпрыемстваў, з дапамогай прыватызацыі якіх можа быць забяспечаны эканамічны рост. Цяпер жа яны пераважна працуюць неэфектыўна, і пры гэтым на іх робіцца вялікія фінансавыя ўліванні дзеля передухілення беспрацоўя і сацыяльнай нпружанасці. Насамрэч, па сутнасці, заробкі на стратных прадпрыемстваў выглядаюць як дапамога па схаваным беспрацоўі.

Аднак перад правядзеннем прыватызацыі перадусім неабходна выявіць дзяржаўныя прадпрыемствы-зомбі альбо жывыя, што можна зрабіць, скарачаючы субсідаванне. Прычым часу не так шмат, бо шэраг прадпрыемстваў могуць стаць нерэфармавальнымі.

Намесніца старшыні Руху "За Свабоду" Галіна Скараход па выніках дыскусіі прадстаўнікоў апазіцыі распавяла Рух.by, што агульная мэта прыватызацыі – гэта падвышэнне эфектыўнасці эканомікі, і з гэтым усе пагадзіліся:

"Удзельнікі абмеркавання таксама падтрымалі чатыры прынцыпы прыватызацыі, - дадала яна. - Праца прыватызацыі павінна рэгулявацца законам. Прыватызацыя павінна быць празрыстай, у ёй не павінна быць карупцыйных схемаў. І нарэшце, патрэбныя рэальная ацэнка аб'ектаў прыватызацыі і адкрытая канкурэнцыя сярод пакупнікоў".

Галіна Скараход патлумачыла, што прадстаўнікі апазіцыі дамовіліся, што ў выпрацоўцы агульнага дакументу вырашылі выкарыстаць новыя падыходы: будуць выкладзеныя усе выказаныя пазіцыі, першымі будуць ісці прынцыпы, якія падтрымалі ўсе, затым кампраміснія рашэнні, а апошнімі – тыя, па якіх дамовіцца не атрымаецца.

Удзельнікі "Паглыбленага дыялогу" цяпер узялі паўзу для працы з дакументам, дадала намесніца старшыні Руху "За Свабоду", наступная сустрэча пройдзе ў другой палове сакавіка.

**Рух.by**

ПЕРАДАВЫ ГАНДАЛЬ

# «ЕЎРАОПТ» СТАВІЦЬ ЗАДАЧУ ВЫРАТАВАЦЬ ПАКУПНІКОЎ

**Кампанія «Еўрагандаль» падвяла вынікі 2014 года і распавяла аб планах на перспектыву. Буйны беларускі рытэйлер мае намер фарсіраваць магчымы «эканамічны шок» пакупнікоў ад крызісу за кошт самых нізкіх коштаў.**

На канец 2014 раздробная сетка кампаніі «Еўрагандаль» налічвала 300 гандлёвых аб'ектаў па ўсёй краіне агульнай плошчай звыш 528 тыс. кв.м.

Колькасць супрацоўнікаў з улікам дачкавых кампаній склала 31297 чалавек. «Еўрагандаль» з'яўляецца самым буйным працадаўцам у Беларусі.

Гандлёвыя плошчы сеткі выраслі на 65% - з 130,2 тыс. кв.м. у 2013 годзе да 214,7 тыс. кв.м. ў 2014 годзе.

Колькасць чэкаў ў 2014 годзе ў параўнанні з 2013 годам вырасла на 43% і склала больш за 200 млн.

Па папярэдніх дадзеных, выручка кампанія па міжнародным стандартам фінансавай справаздачнасці (МСФС, без ПДВ) у 2014 вырасла на 35% да 2,26 млрд. даляраў. Валавы прыбытак у адпаведнасці з МСФС павялічылася на 43% да 527 млн. даляраў.

«Для нашай кампаніі адной з стратэгічных задач на 2015 год з'яўляецца якаснае ўдасканаленне гандлёвай сеткі« Еўраопт »: праца з пакупнікамі, правядзенне маркетынгавых акцый, тэхналагічнае пераасншчэнне раней пабудаваных гандлёвых аб'ектаў, удасканаленне дзейнасці участкаў уласнай вытворчасці, павышэнне якасці прадукцыі і агульнага ўзроўню гандлёвых паслуг», - адзначыў старшыня савета дырэктараў ТАА «Еўрагандаль» Андрэй Зубкоў.

Ва ўмовах складанай эканамічнай сітуацыі ў краіне і на валютным рынку, зніжэння дзелавой і пакупніцкай актыўнасці кампанія «Еўрагандаль» мае намер канкураваць за кошт даступных цэн.

«Стратэгія кампаніі мяркуе самыя нізкія цэны на рынку, тым самым у выпадку наступу «эканамічнага шоку» насельніцтва будзе імкнуцца да скарачэння выдаткаў. Удадзенай сітуацыі крамы «Еўраопт» будуць найбольш прывабнымі для насельніцтва», - адзначаюць у кампаніі.

Цяпер «Еўрагандаль» пільней прыглядаецца да расійскага рынку. Як кажа намеснік генеральнага дырэктара па інвестыцыях «Еўрагандаль» Андрэй Мацявін, разам з літоўскім рынкам гэты рынак уяўляе пэўную цікавасць, дзе «ёсць магчымасць эфектыўна канкураваць на гэтым досыць канкурэнтным рынку».

«Казаць аб стратэгіі і планах па актыўнага нарошчвання крамаў пакуль рана. У кантэксце IPO (першаснае публічнае размяшчэнне акцый. - Nav-iny.by) мы пакуль не ўпэўнены, ці з'яўляецца актыў у Расіі для нас плюсам ці не », - падкрэсліве топ-менеджэр« Еўрагандаль ».

На канец 2014 года ў Расеі сетка крам «Еўрагандаль» налічвала 26 гандлёвых аб'ектаў. Аналагічная колькасць крам пад гандлёвай маркай Fresh market працавала ў Літве.

Па некаторых аперацыйных паказчыках «Еўраопт» апярэджвае расійскія рознічныя сеткі. Так, сярэдні чэк у супермаркетах «Еўраопт» складае 12,2 даляра. У супермаркетах расійскіх рытэйлераў «Магніт» і X5 Retail Group гэты паказчык роўны адпаведна 10,9 і 11,4 даляра. У гіпермаркетах «Еўраопта» сярэдні чэк складае 29,3 даляра, «Магніта» - 15,3 даляра, X5 Retail Group - 16,7 даляра.

«Еўраопт» апярэджвае расійскіх рытэйлераў таксама па продажах з 1 кв.м гандлёвай плошчы. Так, у супермаркетах сеткі гэты паказчык роўны 16 тыс. даляраў, у «Магніта» - 9,7 тыс. даляраў, у X5 Retail Group - 7,5 тыс. даляраў.

За апошнія пяць гадоў у будаўніцтва і мадэрнізацыю гандлёвых аб'ектаў сеткі «Еўраопт» было інвесціравана больш за 900 млн. Даляраў.

**Аляксандр Ярашэвіч**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 16.03.2015 у 16.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.